*Хведар Жычка*



Вершы

# АБДЫМКІ СОНЦА

# АБДЫМКІ СОНЦА

*Хведар Жычка*

Вершы



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ
ЛІТАРАТУРА»
1988

ББК 84 Бел 7
Ж 94

*Рэцэнзент Мікола Маляўка*

В книге ярко выражены характерные черты нашего времени: стремление к перестройке всех сфер нашей жизни, вера в победу правды и ума. Внешне спокойные стихи сборника волнуют искренностью чувства, оригинальностью мысли.

Ж $\frac{4702120200-026}{М\ 302(03)-88}$ 45—88

ISBN 5-340-00045-1

# Як гэта добра!

Як гэта добра:
прачнуцца раніцай у родным доме,
убачыць праз акно чыстае неба,
пачуць па радыё мелодыю гімна
і знаёмае з дзяцінства:
— Увага! Гаворыць Масква!

«Гаворыць Масква!
Гаворыць Масква!»
Ва ўсе куткі Радзімы
ляцяць крылатыя словы,
якія вядуць за сабой
паведамленні аб добрых справах,
працоўныя рапарты калектываў,
рэпартажы з касмадромаў і стадыёнаў.

— Гаворыць Масква!
На чарговы партыйны з'езд
сабраліся дэлегаты —
лепшыя з лепшых:
працаўнікі,
мысліцелі,
творцы.

Як і мільёны савецкіх людзей
думкамі і сэрцам
я там —
у Крамлёўскім Палацы з'ездаў,
слухаю
і адабраю
Праграму Камуністычнай партыі,
праграму нашага жыцця.

Маё радаслоўнае дрэва
не мае на сваіх разгалінаваннях
квяцістых атожылкаў
з высокімі тытуламі і званнямі,—
мае продкі
не ездзілі ў гербавых карэтах,
а ўсе былі сялянамі,
як выгнаныя з раю боскія дзеці,
яны працавалі на зямлі,
сваімі рукамі
здабывалі хлеб,
будавалі жыллё,
шылі адзенне,
ведалі:
каб жыта ўзышло,
трэба яго пасеяць,
каб дождж не капаў за каўнер,
трэба накрыць хату,
каб карова дала малако,
трэба яе накарміць.

І з гэтых простых ісцін
выспявала перакананне:
шчасце ніхто не прынясе,—
яго трэба рабіць сваімі рукамі,
перакананне,
якое стала нормай жыцця,
надзеяй і верай
у заўтрашні дзень.

Наперад глядзець
працоўных навучыў вялікі Ленін,
які высока ўзняў над планетай
паходню Свабоды, Роўнасці і Братэрства
і асвятліў ёю
шлях да шчасця.

Пад Ленінскім сцягам,
па Ленінскіх запаветах
мы цвёрдым поступам
упэўнена крочым наперад
да тых вяршыняў,
імя якім — Камунізм.

Час не спыняецца
і назад не вяртаецца.
Смела глядзець наперад
навучыў нас вялікі Ленін.
З узлётнай паласы Ленінскіх запаветаў
паднімаюцца ў высі
касмічныя караблі нашых планаў,
наша ўпэўненасць у заўтрашні дзень.

Што збудавалі мы,
тое стаіць трывала,
што мы плануем,
усё здзейснім,
бо ведаем:
каб жыта ўзышло,
трэба яго пасеяць...

Як гэта добра:
прачнуцца раніцой
і ўбачыць у акне чыстае неба!
Сваім нашчадкам
разам з новымі гарадамі і электрастанцыямі,
караблямі і касмадромамі,
разам з поўнымі свірнамі
і квітнеючымі садамі
мы перададзім у спадчыну
і гэты чысцюткі блакіт неба,
у якім

залатым юбілейным рублём,
адлітым у Фондзе міру новага тысячагоддзя,
будзе пяшчотна ззяць іскрыстае сонца.

— Гаворыць Масква!
— Гаворыць Масква! —
ва ўсе куткі планеты
ляцяць крылатыя словы,
якія вяшчуюць працоўным свету
Мір,
Шчасце,
Свабоду.

# Пачатак

Праз гушчар нягод, бядоты рэкі,
праз адвечнай крыўды хмызнякі
прабівалі ў новы свет прасеку
нашыя бацькі — бальшавікі.

Радаслоўных дрэў ствалы валілі,
карчавалі спадчынныя пні,
а лаўжы прыслужніцтва палілі
на святым бязлітасным агні.

І наперад крочылі. Наперад!
Пракладалі для нашчадкаў след
з марай светлай
ды з глыбокай верай,
што праб'ёмся мы ў вялікі свет.

# Вызваленне

трыпцiх успамiнаў

## 1. ЧОРНЫЯ ДНI

Чорныя дні... У чорныя дні
ездзіла смерць на белым кані;

ехала ўладна па вёсцы маёй,
налева-направа махала касой...

Радзелі рады і сяброў, і радні...
Ад гора счарнелі б мы ў чорныя дні,

каб верай вялікай мы ўсе не жылі,
у сілу вялікую роднай зямлі,

у тое, што хутка да нас з-за Дняпра
прыйдзе ратунак з грымотным: «Ура-а-а!»

## 2. СОНЦА ЎЗЫШЛО

Як хутка час імчыцца! Пацяжэла
і пасівела галава мая.
А помніцца, была яна як вугаль,
і ўсе мяне дражнілі цыганёнкам,
і гэта дужа радавала маму,
што чорнай галава была ў мяне,
бо ўсіх дзяцей русявых, кажуць, будуць
фашысты аднімаць сілком у матак
і браць з іх кроў для раненых салдат.
Так, так, усіх дзяцей белагаловых
лавіць... ад матак аднімаць сілком...
А што рабіць, скажыце, Фрузе Бокуць?

Дзяцей маленькіх у яе чацвёра,
ва ўсіх — бялюткія, бы з кужалю, галоўкі...
Як толькі лясне дзесьці блізка стрэл
ці загурчыць на бальшаку машына,
хапае Фруза дзетак у бярэмя
і па канаве ў хмызнякі бяжыць...
Цяпер жа вунь і дзень і ноч фашысты
на захад адступаюць: едуць фуры,
грузавікі з дабром нарабаваным,
гарматы, легкавушкі і танкеткі...
Але страшней за ўсіх — матацыклісты
і верхавыя,— ім бальшак не трэба,
яны і па прасёлачных дарогах
заўсёды пройдуць — дождж там ці туман,—
па вёсках рыскаюць, пачуўшы песню пеўня,
убачыўшы дымок над цёплай хатай,
ляцяць наперагонкі:
— Матка, яйкі!
— Гіб шпэк!
— Гіб млека, бутэр, шнапс і брот...
Усё бяруць — і ежу, і адзежу,
яшчэ і прыслужы: каня пачысці,
памый машыну... Прынясі... Падай...

А неяк да Яўхіма Кашапара
прыпёрся афіцэр якісь вашывы
і загадаў Яўхімісе, у печы
каб запаліла і вады нагрэла.
Раздзеўся дагала той афіцэр,
каля цяпла пачаў ён вошы прудзіць,
затым палез у цэбар, і вяхоткай
Яўхіміха спіну каб шаравала,
ды ўсё крычаў, патрабаваў: «Гіб міло!»
Яму дай мыла! Мы ўжо тры гады
не бачылі яго, зусім забылі,
як пахне мыла, пеніцца ў начоўках...

А Фруза Бокуць у той час сядзела
з дзяцьмі ў балоце ля Пясчанай выспы,
дзяцей маленькіх у яе чацвёра,
ва ўсіх галоўкі белыя як снег.
Яны ў палоне звыкліся з няволяй
(жыў у блакітных вочках дзікі жах),
цярпелі холад, не прасілі есці,—
каб толькі жыць, каб разам з мамай быць...

Шумеў бязлістым лесам лістапад,
марозам дыхаў, да касцей праймаў.
Мы талакой бліндаж зрабілі Фрузе
з пячуркай — ноччу можна пратапіць.

Усход гудзеў...
Калі прыкласці вуха
да матухны-зямлі, дык можна чуць,
як пухкаюць гарматы дзесь за Сожам,
а мо і бліжай — за сівым Дняпром.
Дзе фронт?
Дзе тыл?
Што робіцца на свеце,
ніхто не ведаў...
Лютыя фашысты
сагналі, можа, тысячы народу
на беразе Дняпра капаць траншэі,
казалі: будзе тут «Дняпроўскі вал»,
які чырвоных спыніць і паверне
назад аж да Масквы, бо фюрэр мае
сакрэтнай зброі шмат, ускалыхне
ён ёю свет увесь і навядзе
на ўсіх мацерыках «парадак новы».
— А каб ты здох ды са сваім парадкам! —
бурчала Фруза, грэючы зацірку
на грубачцы бляшанай.— Злыдзень! Гад!
Цябе б вось накарміць бурдою гэткай,

якой кармлю дзяцей!.. А ты з іх кроў
яшчэ смактаць сабраўся, ненажэрны!..
Скуль быць крыві той? Паглядзіце, людцы,
як пасінелі тварыкі, свіцяцца
наскрозь яны, гаротнічкі мае...
Мы, «людцы», самі рэзалі бульбіну
на тонкія скрылёчкі, прыкладалі
іх да бляшанай печкі і чакалі,
пакуль яны падсмажацца, хапалі
гарачыя, піхалі прагна ў рот...
Нам голад — што? Хутчэй бы нашы танкі
прарвалі фронт фашысцкі і стралою
пранесліся па вуліцах, за імі
прыйшла пяхота — мужныя салдаты
у шэрых шынялях, бліскучых касках,
між іх — мае браты Васіль і Пеця,
абодва гармяністы... Іх чакаюць
не толькі я — усе дзяўчаты вёскі
і ператвораны ў цэйхгауз калгасны клуб...

Пайшлі дажджы халодныя...
Фашысты
у хаты лезлі, бралі падчыстую
усё, што можна з'есці або выпіць,
а што было сухое і гарэла —
палілі ў печах, грэліся, сушылі
прамоклыя падраныя мундзіры
ды пеклі бульбу, смажылі каніну,
нас гналі прэч.
Мы начавалі ў лёхах,
галодныя, дрыжалі і жывымі
не марылі застацца...

На світанку
пачулі раптам: грымнулі гарматы,
ад грому іх зямля ўся задрыжала,

і без прысвісту ў небе самалёты
раўнютка загулі...
І мы адразу
пазналі: гэта нашы.
— Нашы!
— Нашы!
Мы з лёхаў вылезлі, было ўжо відна.
Спыніўся танк ля хаты.
З люка вылез
баец у шлеме. Нам ён усміхнуўся,
сказаў прыветна:
— Здравствуйте, ребята!
І сонца ў той жа міг над краем узышло.

### 3. ДЗЯДЗЬКА КЛІМ І ГЕНЕРАЛ

Па гразкай вулцы нашай вёскі
ішоў пяхотны грозны вал
і ехаў верхам Сакалоўскі,
яшчэ не маршал — генерал.

Прыгожы, статны, чарнабровы,
папаха злёгку набакір,
глядзеў, здавалася, сурова:
вядома ж — слаўны камандзір.

Ды штось дзіцячае ва ўхмылцы
было, калі ён нам казаў:
— На Іскры, гэтай вось кабылцы,
ад Курска к вам я прыскакаў

і да Берліна шчэ даеду,—
а, каб пацвердзіць свой зарок,
ён не махры даў Кліму-дзеду —
«Казбеку» поўны карабок.

Той карабок — пусты ўжо, праўда,—
бярог да самай смерці Клім
і паказаць яго быў рады
усім — старым і маладым.

Квіткі, даведкі і страхоўкі
у карабку тым Клім хаваў
і ганарыўся:
— Сакалоўскі!!!
Цяпер вунь маршалам ён стаў,

а быў жа тут во... Просты гэткі,
падаў руку...— запомніў дзед,
як генерал здымаў планшэтку,
у што ён быў абут-адзет.—

— Казаў «даеду» і даехаў
у тое зверава кубло...
Калі ж хто устаўляў са смехам:
— Дзед, што было — вадой сплыло,—

Клім абураўся:
— Што вы, людзі?!
Не! Не сплыло і не сплыве,
мо іншы хтосьці і забудзе,
а ў нашай памяці жыве
і будзе вечна жыць, паверце,
трывогай урывацца ў сны,
каб больш ніколі ўжо на свеце
крывавай не было вайны.

...Гляджу на Клімаву магілу —
зарослы муравой канец.
. . . . . . . . .
Які ж ён быў мужык стажылы,
хоць непісьменны, а мудрэц!

## Плошча Перамогі

Воблакі плывуць над абеліскам,
як гады, плывуць за небакрай.
З непакорным, працавітым Мінскам
зноў сустрэўся
перыможны Май.

Распускае почкі бэз у скверы.
Гальштукі праменяць цеплыню —
ганаровай вартай піянеры
сталі
каля Вечнага Агню.

І на збор да плошчы Перамогі
ветэраны едуць у метро,
на грудзях іх па ранжыры строгім
ззяе бронза,
свеціць серабро.

Не вярнуцца з захаду вятрыскам!..
Родны край, пад сонцам расцвітай!
...Воблакі плывуць над абеліскам,
як гады,
плывуць за небакрай.

# Ветэран

Сухой рукой перабірае медалі
за Кёнігсберг, Варшаву і Берлін,

нібыта біяграфію чытае,
далёкае былое ўспамінае,

сяброў па зброі — мёртвых і жывых,
крыху шчэ помняцца абліччы іх

і галасы — амаль дзіцячыя фальцэты,
грузінскія, малдаўскія акцэнты...

Звон кацялкоў ля кухні палявой...
Прывал кароткі і бясконцы бой...

Раненне і шпітальныя пакуты...
Над брацкімі магіламі салюты...

І зноў — у наступленне... Зноў: «Ура-а-а!..»

Прыйшоў унук вясёлы са двара:
— Дзед, тэлевізар уключай! Даўно
ідзе пра Шцірліца кіно,
а ты сумуеш.
Ну і дзед!

2 Зак. 611

# Іх застаецца менш і менш...

Іх застаецца менш і менш
са мной, з табою,
тых, хто пісаў свой звонкі верш
на полі бою,
хто на дарогах франтавых
быў запявалам,
каму б яшчэ сярод жывых
жыць не прыстала.

Зноў сцяг брыгады Куляшоў
не ўздыме ў высі,
ў сваю дывізію пайшоў
гвардзеец Пысін;
аблюбавалі вечны схоў
і Броўка з Глебкам,
Бачыла,
Корбан,
Гарулёў
і Сабаленка...

Іх застаецца менш і менш
са мной, з табою,
хто гартаваў свой звонкі верш
у горне бою,
хто словы клаў не для прыўкрас —
як тол пад рэйкі.
Няма Бялевіча між нас,
няма Астрэйкі;
сцяжынкі Віцебскіх варот
яшчэ іх помняць,
браў вершы з іхніх рук Шмыроў

зарукай помсты;
пайшлі, нібы ў вячэрні змрок,
пад елак засень
блакітнавокі Васілёк,
Мікола Засім...

Ці ж можна іх злічыць усіх,
паэтаў мужных,
хто полымем радкоў сваіх
байцам грэў душы?!.

Іх застаецца менш і менш
на белым свеце...

Набатам хай грыміць іх верш
па ўсёй планеце!

* * *

Вядзіце, маладыя, рэй,
бярыце моцна лейцы ў рукі,
жывіце лепш за нас,
мудрэй,
не ведайце прынукі,

ступайце цвёрда па зямлі,
мацуйце мір, сяброўства, згоду,
ды помніце,
адкуль прыйшлі,
з якой зямлі,
з якога роду,

хто вас расціў,
хто гадаваў
і хто паставіў вас на ногі,
хто праз балота пракладаў
у шчасце
вам
дарогі.

## Прапішыце, доктар...

Прапішыце, доктар, мне не Сочы,
не Афон, не Ялту, не Місхор,
не ўзбярэжжа, дзе прыбой грукоча,
не даліну руж між сініх гор,—

прапішыце лепш мне бераг Сожа,
мокры поплаў і сунічны бор,
сцежкі палявыя, луг мурожны,
між балот пясчаны касагор;

прапішыце мне парылку лазні
з венікам пякучым па спіне,
прапішыце шчэ дыету мне —
са смятанай грэцкія аладкі
і пасцель на сене пад павеццю,
каб падняцца дрогка на дасвецці.

# Першая навальніца

У хмарах сонца стала патухаць —
спалохана трава прыціхла і прыгнулася.

На сцэну выбегла маланка галяком,
красою асляпіла ўсіх і знікла.

На друзачкі, як шкло пад малатком,
разбіўся гром аб востры грэбень лесу.

І лінуў дождж знянацку, бы з вядра,
каб напаіць дасхочу ўсё жывое.

# Як у лузе пад калінай...

З НАРОДНАГА

Як у лузе пад калінай,
пад чырвонай калінай
стаіць хлопец з дзяўчынай,
з прыгажуняй-дзяўчынай.

Вецер дрэвы хістае,
несціхана хістае.
Хлопец дзеўчыну пытае,
асцярожна пытае:

— Ці дазволіць табе маці,
твая строгая маці
выйсці вечарам гуляці,
ў клуб калгасны гуляці?

— Няхай маці пільнуе,
колькі хоча пільнуе,
на гулянку прыйду я,
усё роўна прыйду я.

* * *

Прыпалі долу леташнія травы —
маркотны ўзор пакорнасці жывой.
Ім не шаптацца з цёплымі вятрамі,
не піць вады гаючай дажджавой.

Даўно яны сваё адкрасавалі,
умелі налівацца,
спець,
раджаць;
сваё адпрацавалі,
адспявалі,
на сонца выйшлі
ціха паміраць.

* * *

Па роснай траве басанож я ступаю,
на роснай траве я сляды пакідаю.

Ды сонца засвеціць — і тыя сляды
з прасохлых лугоў прападуць назаўжды.

Такі на зямлі і наш лёс чалавечы:
пакуль ты жывы, дык і дбаеш аб нечым;

пакуль ты ідзеш, маеш сілу ў нагах,
патуль цябе вабіць і радуе шлях.

# Прагулка пасля зімы

Спаць на ложку стала мулка —
патрабуецца прагулка

па прасохлых сцежках польных —
да тваёй скупой паталі,

па пралескавых палянах —
да плячэй тваіх смуглявых,

па іржышчах перапрэлых —
да грудзей тваіх збалелых,

па імшарынах балотных —
да вачэй тваіх журботных,

па мастах і кладках вузкіх —
да тваіх салодкіх вуснаў.

# Вясна на Магілёўшчыне

*Памяці Міколы Ткачова*

Праз сотні тысяч вокнаў незашклёных
на Магілёўшчыну прыйшла вясна,
нібы фальгою каленкор зялёны,
лугі залоціць лотаццю яна.

Араты ў поле выйшаў давідна,
стаў на чале ён трактарнай калоны;
напятаю струной пралегла баразна,
каб паўтарыцца тыражом мільённым.

Як ні мудры і як ні разважай —
няма ў жыцці ў нас больш высокай мэты,
чым клопат селяніна пра ўраджай.

Шануюць хлеб усе народы свету.
Невыпадкова круглы, як планета,
пячэцца на вяселле каравай.

* * *

А пад акном язмін
цвіце бялюткім цветам.
Калісьці так і мы
квітнелі ранні̇м летам.

А мо і не цвілі,
а мо здаецца толькі
цяпер, як зажылі
і драпіны, і болькі?

Цяпер ужо, калі
на ўсё глядзець здалёку,
дарога, што прайшлі,
здаецца гладкай, лёгкай...

І думаеш: няўжо
такія мы няўдакі,
што поўзалі смаўжом,
дрыжалі з пераляку?..

Не! Не дрыжалі мы —
буялі белым цветам,
як гэты вось язмін
квітнее раннім летам.

# Пчолы

Пад цвітучай ліпай вулей —
пчолам райскае жыццё:
ім за свет ляцець не трэба,
крылы пругкія стамляць.

І яны з пахучых кветак
дармавы нектар збіраюць,
напаўняюць соты-дзежкі,
каб хапіла на зіму.

* * *

Даўным-даўно адцвіў мой бэз
і макі адгарэлі.
А мне ўсё абяцае лес
зялёныя арэлі;

а мне ўсё гулі ў галаве,
і клічуць летуценні
туды, дзе скачуць па траве
рабінавыя цені;

а мне ўсё сніцца з траў кілім,
гарачыя далоні
і блізка-блізенька зусім
вачэй тваіх бяздонне...

* * *

Над жытнёвым полем — дзве вясёлкі,
значыць, дождж не вернецца назад.
Выпускаюць смела перапёлкі
з-пад крыла на волю пылянят.

Нам, людзям, што пакарылі неба,
расшчапілі атама ядро,
прыкмячаць нібыта і не трэба:
з чым прыходзіць зло,
а з чым — дабро.

Век эксперыментаў і прагнозаў,
электронных робатаў-машын
клопаты глабальныя прыносіць,
з імі ўжо не справішся адзін:

сёння цяжка нават міліёнам
прадказаць, дзе спеліцца паліп,
што дасць волю вылюдкам шалёным
над зямлёй узняць смяротны грыб.

Што ж, у стозе не знайсці іголкі,
з мора век не вычарпаць вады...
Нам жа трэба вынайсці вясёлку,
каб гарантавала ад бяды!

* * *

Хто верне серп у маміну руку?
Каб зноў яна, такая ж маладая,
у белай палатнянай сукні
на гэта поле выйшла жыта жаць...

А я, малы, парэпаныя ногі
высока падымаючы, каб ржэўнік
іх не калоў, на свой загон гарачы
ёй прынясу гладышку малака.

Яна прысядзе цяжка на зямлю,
глыне глыток адзін мо з той гладышкі,
пагладзіць мяне ціха па галоўцы
і так пяшчотна мне яна ўсміхнецца.

Хто верне серп у маміну руку?

* * *

Я праз акно тваё дзіўлюся, лістапад,
ружовым шкельцам неба мне здаецца,
брусніцай спелай зззяе далягляд,
чырвоным полымем гарэць кляны прысад,
барвовы дым над сумам лесу ўецца.

На дах зялёны ў цішыні шкляной,
як дарагія пацеркі рубіну,
цяжкія гронкі звесіла рабіна.
І па зямлі святой плыве спакой,
як мёд — густы, як мора — сіні-сіні.

3 Зак. 611

* * *

Столь у бацьковай хаце
не здавалася нізкай,
там на клёцы жалезным
вісела калыска

і пад матчыну песню
гайдалася лёгка.
Засынаў немаўля
на кужэльных пялёнках.

Маці ў тварык глядзела
і бога маліла:
— Хай не будзе прыгожы,
а будзе шчаслівы.

Ды, відаць, той мальбы
не пачуў усявышні,—
выпаў лёс мне такі,
каб усюды быў лішнім:

між радні,
на гульні,
на дарах-частаваннях,
за святочным сталом,
пры дзяльбе караваю...

Так жыццё праляцела
маланкай імклівай.
Кажуць людзі: прыгожы,
знаю сам: нешчаслівы...

# Акадэмік ідзе ў грыбы

*І. Я. Навуменку*

Не дзеля набытку,
а дзеля самой хадзьбы,
якая
і млявасць зганяе
і думкам высокім дасць рошчыну,
ідзе акадэмік
               на золку ў грыбы
ажно за Валоўшчыну.

Ідзе не дарогай —
дае кругаля
праз ельнік,
балота
глухімі сцяжынкамі.
Ён чуе,
як дыхае хлебам зямля,
нібыта жытное перад зажынкамі.

На ўзмежку
расою набракла гірса,
сасоннік
          іглідай шчэрыцца.
...Калісьці ён босы
па шыгаллі гэткім гайсаў,
цяпер аж самому
                    не верыцца.

Не дзеля набытку прыйшоў...
Але ўсё ж
з сабой прыхапіў ён

кашэль парусінавы
і загадзя добра навостраны нож,
каб зрэзаць
пры самай зямлі
падасінавік.

Няхай невялічкі...
Знайшоўся адзін,—
варта шукаць
і другога,
і трэцяга,
пятага...
І на пагорак,
дзе шмат баравін,
цягне ужо
грыбніка заўзятага.

Які ж ён прыветны,
ранішні бор
з насцеж адкрытымі
меднымі брамамі!
На фоне ружовага неба
яснеецца
лапак узор,
пахне жывіцай
і травамі.

Ды раптам
уздрыгнуў былы партызан —
куляй з-пад ног
вылецеў подлетак спуджаны.
Танклявыя ручкі
прасунуў праз коўдру-туман
даверлівы,
бы немаўля,
беразняк абуджаны.

І дзень пачынае
дужэць пакрысе,
закончыўшы з ноччу нямую палеміку,
над краем,
дзе ходзяць па золкай расе
на золку
ў грыбы
акадэмікі.

## Трыялеты

*

Хачу з'яднаць я трыялетам
два антыподы-палюсы:
зіму-лядоўню з цёплым летам
хачу з'яднаць я трыялетам,
і не парушыўшы пры гэтым
прыроды велічнай красы.
Хачу з'яднаць я трыялетам
два антыподы-палюсы.

*

Ці ж гэта мала: сонца свеціць,
а ты — здаровы і жывы?
У садзе вецер грае веццем.
Ці ж гэта мала: сонца свеціць?
Суседка ўсмешкаю прывеціць
і здыме хустку з галавы.
Ці ж гэта мала: сонца свеціць,
а ты — здаровы і жывы?

*

Лаўлю вачамі зор мігценне,
а сэрцам слухаю зямлю.
Сівагаловы летуценнік,
лаўлю вачамі зор мігценне.
Я пра зямное прыцягненне
размоў залішніх не люблю —
лаўлю вачамі зор мігценне,
а сэрцам слухаю зямлю.

*

Нясу я з лесу не грыбы —
усмешку бабінага лета.
Бярэмя песень шчэ не спетых
нясу я з лесу — не грыбы.
Блукаючы ўвесь дзень без мэты,
што я згубіў, а што — набыў?
Нясу я з лесу не грыбы —
усмешку бабінага лета.

*

На неба ўзлезці ён хацеў,
але зваліўся ў яму.
А так стараўся, так пацеў —
на неба ўзлезці ён хацеў.
І красамоўствам зіхацеў,
і выдаваў таксама...
На неба ўзлезці ён хацеў,
але зваліўся ў яму.

*

З мяне анёл не атрымаўся —
на неба я ўзляцець не змог.
Жанчынамі я захапляўся,
з мяне анёл не атрымаўся.
Спакусам не супраціўляўся,
пераступаў чужы парог...
З мяне анёл не атрымаўся,
на неба я ўзляцець не змог.

*

Я думаў, што яшчэ далёка
і лістапад, і снегапад,
бяспечна па гаях галёкаў...
Я думаў, што яшчэ далёка...
Ішоў няспешным роўным крокам
і не аглядваўся назад,
бо думаў, што яшчэ далёка
і лістапад, і снегапад.

*

Для вусеня галінка — цэлы свет,
ягоны дом, ягоная дзяржава.
Тут ёсць яму прытулак і абед,—
для вусеня галінка — цэлы свет.
Пакіне і нашчадкам запавет:
рабіць патраву — гэта ваша права...
Для вусеня галінка — цэлы свет,
ягоны дом, ягоная дзяржава.

# Першы снег

Першы снег — як першы грэх:
непрывычны,
чысты,
лёгкі,—
збегла восень з мокрых стрэх,
а зіма яшчэ далёка.

Першы грэх — як першы снег:
нетрывалы,
свежы,
крохкі,—
у цнатлівасці прарэх,
да распусты шчэ далёка.

* * *

Прыйшла і зноў кудысь пайшла,
адны ўспаміны засталіся,
нібыта хвалі з-пад вясла,
яны кругамі разышліся,—
адно парушылі спакой
дагэтуль ціхае затокі...
А месяц вісне над ракой,
бы выглядае
вір глыбокі.

* * *

Снег ідзе, снег ідзе
на дарогі,
бульвары
і стрэхі,
замятае нашы сляды,
галасоў нашых рэха...

Снег ідзе, снег ідзе
кожны раз — навіною і дзівам,
быццам беліць кватэру жыцця
навасёлам шчаслівым.

Снег ідзе, снег ідзе,
прыглушае і рухі, і гукі
і кладзецца на сэрца маё
прадчуваннем разлукі...

* * *

Зімой салодка спіцца
пад завірухі песню;
разбудзіць на грамніцы
капеж — напіцца пеўню.

Зірну на ўсход блакітны
і ў сонца маладога
я папрашу нібыта
не так ужо і многа:

каб май быў навальнічны,
і чэрвень — неспякотны,
а ліпень — касавічны,
а жнівень — абмалотны,

і верасень — насенны,
кастрычнік — хлебасольны,
а лістапад — вясельны,
і снежань — перазоўны.

* * *

А думаеш, снег не ведае,
што пераможа цяпло,
што не пакіне і следу ён,
сплыўшы ў балотнае тло?

І ўсё ж ён не згаджаецца
растаць і знікнуць за дзень,
у ямы і рвы апускаецца,
хаваецца моўчкі ў цень.

А ноччу марозу рады ён,
імкнецца зноў зацвярдзець,
каб праўдаю і няпраўдаю
прадоўжыць свой век хоць на дзень.

Ды песня даўно яго спетая,—
вунь сонца з-за лесу ўзышло.

...Думаеш, снег не ведае,
што пераможа цяпло?

## Сябру-філолагу

Цяпер табе, напэўна, лёгка
з любоўю вёску ўспамінаць,
калі яна ўжо так далёка:
на дах залезеш — не відаць;
калі травою-муравою
сцяжынка ў школу зарасла,
што залатою раніцою
цябе ў вялікі свет вяла;
калі забыў,
як пахне грэчка,
як лён цвіце,
як хлеб расце,
на золку сын — не твой, а нечы —
бяжыць за статкам па расе;
калі ўжо ў апусцелай хаце
штодня з цямна і да цямна
цябе не выглядае маці
праз шыбку потнага акна;
калі ўжо на магілах продкаў
згнілі дубовыя крыжы...

Цяпер табе, напэўна ж, лёгка
па вёсцы плакаць і тужыць,
шукаць адценні ў родным слове,
любіць быццё аднасяльчан...

...Ды вёсцы ад тваёй любові
няма палёгкі ні на гран!

* * *

Не заплятаць бярозам косы,
не кратаць занізкі рабін,
не слухаць птушак шматгалоссе —
у лес прыйшоў я па грыбы.

Ялінак лапкі падымаю,
абшнарваю беразнякі
і, не шкадуючы, зразаю
баравікі і казлякі.

Грыбныя ўсе прайду мясціны,
прайду цішком, без лішніх слоў
і светлай баравой данінай
напоўню кошык да краёў.

Прыйду дамоў, і прыме жонка
той кошык, як свяшчэнны дар,
мне зробіць гэткую пражонку,
якой не еў, напэўна, цар.

# Травінка

УСПАМІН ДЗЯЦІНСТВА

Басанож па выспелай расе
бег на самы на высокі ўзгорак,
каб убачыць свет ва ўсёй красе,
дзе няма бядоты, крыўды, гора.

Што ж убачыў?
Голая зямля,
як і ў нас: пясок, тарфянік, гліна,
і па небе сунецца здаля
хмара — нібы чорная аўчына...
Абхапіў рукамі галаву:
воечкі!.. Як страшна, глуха, дзіка!..
І без сілы грымнуўся ў траву.
— Мама! Мама! — у адчаі клікаў.

І чакаў: вось зараз грымне гром,
пакарае люта за грахі ён:
спапяліць мяне сваім агнём,
а душу на мукі ў пекла кіне...

Жах які!
Ды ўсё ж я не сцярпеў,
ціхенька адно расплюшчыў вока:
свет пад сонцам весела зіхцеў,
тая ж хмара адплыла далёка.

Узняла мяцёлку, нібы сцяг,
перад носам мятлінка-травінка,
і буяла хараством жыцця
гэтая танюткая раслінка.

# Раўнадзенства

Раўнадзенства — цуд цудоўны:
па паўсутак ноч і дзень;
як ні мерай — будуць роўны
стынь і сквар, святло і цень.

Раўнадзенства — раўнапраўе:
дзень жа — ён, а ноч — яна,
кожны з іх улады прагне
па паўсутак ля стырна.

Раўнадзенства — электрычнасць:
«плюс» і «мінус» — палюсы,
і прывычна і нязвычна
слухаць з бездані касмічнай
згоды іхняй галасы.

Роўна — вернасці і здрады,
роўна — зла і дабрыні...
Колькі ў творы грамаў праўды,
роўна гэтулькі ж — хлусні.

І няма тут чарадзейства:
цвет адцвіў, паспее плод...
. . . . . . . . . . . . . . . .
Дзякуй богу, раўнадзенства —
толькі два разы на год.

* * *

Штосьці раптам сэрца зашчымела:
зноў перад вачамі паплылі,
бы ў забытым фільме чорна-белым,
баявой эскадры караблі.

Мора, мора!..
Ад майго юнацтва
так далёка ты ўжо адплыло,
што мне нават страшна азірацца —
раптам хвалі выб'юць з рук вясло.

Без вясла ў раз'юшанай стыхіі
як жа мне ўтрымацца на плаву?

Коціць мора спрэс валы крутыя
на маю сівую галаву...

— Гэй! — крычу я.— Сябрукі-матросы,
кіньце мне выратавальны круг!..
. . . . . . . . . . . . . . .
Толькі вецер свішча стогалосы,
толькі хвалі пеняцца наўкруг...

І шчэ болей сэрца зашчымела:
паплылі, знікаючы ўдалі,
бы ў забытым фільме чорна-белым,
не маёй эскадры караблі.

# Лячэнне бегам

На вякі дала нам прыклад Спарта,
як гартоўкай сілу берагчы.
Бегам ратавацца ад інфаркту
раяць і сучасныя ўрачы.

Тут навука простая, як рэпа:
каб сагнаць залішні ўвесь цяжар,
збудаванняў і прылад не трэба —
з ложка, у трусах — на тратуар.

Бегай, калі хочаш быць у норме,
з асалодай аж да смерці жыць.
Бегай, хай якое там надвор'е:
золь, мароз ці дробны дождж імжыць.

Бегай раніцой і надвячоркам,
не зважай на кепікі мяшчан,
прабівай стралой ружовашчокай
алкагольнай сытасці туман.

Сталасць адзначаецца не плехам,
старасць — не гушчэчай сівізны...
Ратавацца ад інфаркту бегам
я пачну...
з наступнае вясны.

# На той зямлі...

На той зямлі, што родная з калыскі,
пранесліся пякельныя вятры.
Стаяць у кожнай вёсцы абеліскі,
над кожным зорка памяці гарыць.

Тут кожнага чацвёртага забрала
Вялікая Айчынная вайна...
Няўжо камусь ахвяр тых стала мала
і гора шчэ не выпіта да дна?

У дзень, калі жаўрук спяваў над полем
і ў квецень светлую ўбіраўся мірны сад,
узбунтаваўся, вырваўся на волю
нябачны вораг — ядзерны пірат.

Насіўся над пакутнаю зямлёю,
як ненажэрны стогаловы змей,
гатовы знішчыць быў усё жывое —
не пікадаваў ні кветак, ні дзяцей.

Утаймаваць яго было нялёгка:
як у вайну, ішлі салдаты ў бой.
Каціўся ад Чарнобыля далёка
і ўсенародным станавіўся боль.

Той боль не згас, пячэ душу і сёння,
ён заклікае пільнымі нас быць,—
ні «зорных», аніякіх іншых войнаў
не дапусціць!

# Пакаянні алілуйшчыкаў

Кулаком у грудзі б'е, клянецца:
— Быў дагэтуль я сляпы зусім,
а цяпер відушчы стаў, паверце,
не засцеле больш вачэй мне дым...

І другі яму таксама ўторыць:
— Поўзаў я са скорасцю смаўжа,
а цяпер змагу сяўбу паскорыць,
каб сабраць у чэрвені ўраджай...

Трэці заліваецца прамовай:
— Я ірвуся да вялікіх спраў,
у нагу іду з перабудовай,—
хоць нічога век не будаваў.

...Гэткія з'явіліся не раптам —
і ў былыя дні было іх шмат.
Іх дэвіз: «Дзе ўлада — там і праўда,
хто наверсе — той нам брат і сват...»

Гэткія заўжды таго віталі,
хто садзіўся на мясцовы трон,
дыфірамбы соладка спявалі,
рыфмавалі словы «плён» і «дзён».

Гэткія заўсёды білі ў ладкі
выхвалякам, спрытным брахунам,
каб свае «заплясканць» непаладкі
і паўстаць святошамі, без плям.

Гэткія спяшалі адракнуцца
ад радні, ад мовы, ад зямлі,

дань аддаць любой ілжэнавуцы,
разменяць сумленне на рублі.

Гэткія ў рашучы час чакалі,
нібы мышы, за глухой сцяной,
і куды хіснуцца раптам шалі —
там, глядзі, яны ўжо ўсёй гурмой.

Гэткія заўсёды асуджалі
тых, хто з імі крочыць не ў нагу,
«выкрывалі», ніштчылі без жалю,
гнулі іх — упартых — у дугу.

Не сагнулі!
Рушыў час наперад,
рве старыя нормы на шматкі.
Свежы вецер адчыняе дзверы,
прадзімае затхлыя куткі.

Верым:
дзень наступны ясным будзе,
знікнуць назаўсёды міражы.
Кулаком не трэба біць у грудзі,
языком не выбівайся ў людзі,—
працай
вернасць праўдзе
пакажы!

## Верлібр

Іду
з расхрыстанымі грудзямі
басанож
па мяккіх травах і вострых камянях,
без магнітафона
і транзістара,
іду
і спяваю сам,
не чужыя словы,
не па напісаных некім нотах,
а тое, што хачу,
і так, як душа спявае.

Не форму разбураю —
разганяю туман
зарыфмаванай абыякавасці,
рытмізаванай бяздумнасці.

## Зоркі

У турботнай мітусні праходзіць дзень,
не даючы нам і хвілінкі часу
на спачын і роздум.

І калі
за горы сядзе сонца
і, праганяючы прэч зямныя клопаты,
па вуліцы ўладаром пройдзе змрок,—
загараюцца на небе зоркі,
каб паказаць
бяскрайнюю і бяздонную
прыгажосць Сусвету.

Няхай жа
пад зорным небам
спакойна спіцца
маім братам —
насельнікам Зямлі!

# Мікраараён

Дамы — як скрыні,
пастаўленыя «на папа»
і пакладзеныя набок,
кружацца ў танцы
пад музыку сонца.

Аблокі-рыцары
абкружаюць карагод гмахаў,
пагражаюць ім дажджом і навальніцай,
але адразу мякчэюць,
бо адчыняюцца сотні вокнаў,
і з кожнага акна —
Джульета выглядае.

# Глобус

Са школьных гадоў
усе мы ведаем
гэты размаляваны
ў сіняе, зялёнае і жоўтае
шар на драўлянай падстаўцы.

Сотні разоў бачылі яго,
насілі,
вярцелі,
паказвалі настаўнікам,
дзе — Атлантычны акіян,
дзе — Ціхі,
дзе — Азія,
дзе — Аўстралія;
па ім вывучалі геаграфію
і цяпер добра ведаем
гарады, якіх ніколі не бачылі,
уяўляем горы і пустыні,
стэп і тайгу,
выпукласць мора, якая сведчыць,
што наша планета мае форму шара.

Ды па сёння
толькі лічаныя людзі — касманаўты
бачылі Зямлю
круглую, як глобус.

## Будзільнік

Я купіў цябе, будзільнік,
думаў:
станеш маім добрым сябрам,
які заўсёды паспрыяе,
каб я нікуды не спазняўся,
нікога доўга не чакаў.

А ты аказаўся бюракратам,
фармалістам,
прыгнятальнікам,
ледзь не катам,—
я хачу яшчэ крышачку паспаць,
ты ж звоніш,
звоніш,
звоніш,
падганяеш: «Уставай!»

# Тыдзень на дачы

Незаўважна праляцеў час
ад панядзелка да панядзелка.
Сем дзён,
за якія бог стварыў свет,
засяліў яго камарамі,
                    птушкамі,
                    звярамі,
                    чалавекам...
А што зрабіў я?
Два дні слухаў шум дажджу за вокнамі,
калі ж распагодзілася,
падправіў разбітыя веснічкі,
абкапаў загончык бульбы,
бадзяўся па лесе,
думаў знайсці які грыб — не знайшоў,
сабраў на градзе спелыя трускалкі,
сам жа іх і з'еў,
ну напісаў яшчэ пару вершаў...

Але ж гэта — не свет,
бо і я — не бог.

# Пялёсткі лотаці

*

Паглядзі:
пасля вясенняга дажджу
на чорным балоце
распукнулася залацістая кветка лотаці
і цягнецца пялёсткамі да сонца.
Вось так і я
ад твайго ласкавага пагляду
вырываюся з палону тугі
і ўзношуся духам пад самае неба.

*

Ты ніколі не бачыла,
як полем ходзіць сейбіт
і засявае палетак збожжам.
Не бачыла,
а сама стала сейбітам,
пасеяла ў душы маёй неспакой,
ды так густа,
што яго ўсходы
заглушылі ўсе іншыя думы і пачуцці.

*

Між табой і мной
ляжалі бясконцыя пустыні
невядомасці, маўклівасці, абыякавасці.
Здавалася,
не хопіць жыцця, каб прабіцца праз іх,

а мы і не заўважылі,
як адолелі такую адлегласць,
і цяпер між намі няма нічога,
хіба толькі нашы вусны.

*

Сама прырода
зрабіла нас касманаўтамі:
з дня нараджэння
ляцім мы па зададзенай арбіце вакол Сонца
на надзейным караблі — планеце Зямлі,
дзе ў дастатковай колькасці
ёсць кіслароду, ежы і пітва...
Жывём мы на гэтым караблі
і не заўважаем, што — ляцім,
тым больш цяпер мы на гэта зусім забыліся,
бо, калі мы разам,—
ці ж пра такое думаць?

*

Сядзеў, чытаў газету.
І раптам пачуў дзівосную музыку:
Грыг? Шапэн? Моцарт? Бетховен?
Не, гэта нешта нават большае за ўсіх іх.
Адкуль такая музыка?
Хто яе выконвае? У мяне ж і раяля няма...
І раптам зразумеў:
тая музыка плыве з тваіх вачэй,
з тваіх цёплых далоняў,
з твайго добрага сэрца.

Тваю музыку ніхто не пачуе —
яна для аднаго мяне.

*

Аслеплены каханнем,
малюся я табе
не па малітоўніку,
а на памяць,
дыпламатычна замяняючы забытыя словы
сваімі, якія шукаю навобмацак.
Ты чуеш,
як я мурашкамі сваіх пальцаў
бегаю па тваёй спіне?

*

Ніколі не забыць мне тых начэй
на беразе ляснога возера;
рука ў руцэ хадзілі мы пад ззяннем месяца
і маўчалі,
баяліся разбудзіць ніцых вербаў,
якія схіляліся над вадой
і, каб не перашкаджаць нашаму шчасцю,
прытвараліся, што спяць.

*

Як прыемна быць закаханым,
бачыць на кожным твары
толькі святло,
толькі ўсмешкі!

Як прыемна быць закаханым,
мець душу, шырэйшую за мора,
насіць цяпло ў сваім сэрцы,
каб саграваць ім у сцюжу
сваю любую!

Як прыемна быць закаханым,
верыць у тое,
што перад табой адкрыты ўсе дарогі!

*

Наша вуліца —
як чатырохструнная скрыпка:
увесь дзень
па струнах-правадах
слізгаюць смычкамі тралейбусы,
яны іграюць дзівосную сімфонію
пра твае вочы,
пра маё каханне.

*

Ішла каля майго дома
і не завітала ў госці...
Якая ж ты жорсткая!..

*

Прыйдзі,
дапамажы мне дапісаць кнігу —
энцыклапедыю дум і пачуццяў,
якія згуртаваліся вакол твайго імя
і майго сэрца,
бо без цябе я ў іх канчаткова заблытаюся...
Прыйдзі,
дапамажы мне размяняць маю салодкую самоту
на горкую любоў і лютую рэўнасць,
далучы мяне да тых,

хто не бярэ падачак,
а да крыві б'ецца за сваё шчасце.
Прыйдзі!

*

Як альбатрос у непагадзь
інстынктам адчувае, у якім баку сонца,
я заўсёды адчуваю цябе
і ў любым натоўпе
лёгка адшукаю тваю постаць,
каб у думках прыхінуцца да яе,
як мокры ветразь да мачты...

*

Хто гэта там хоча
вярнуць нам забыты купецкі звычай —
выхваляцца прыгажосцю сваёй каханай
і ў той жа час
вымагаць у яе бацькоў стотысячнага пасагу?
Навошта гэта,
калі твой пяшчотны пагляд
даражэй за ўсе багацці свету,
калі з тваёй усмешкай
не можа спаборнічаць бляск золата?..
Праўда, ведаю пра гэта толькі я адзін.

*

Хацеў бы табе аддзячыць
за тваё каханне,
але ведаю, ты скажаш:
яно такое ж маё, як і тваё.

Хацеў бы табе аддзячыць
за хлеб, які ты мне адрэзала,
за бальзам пацалункаў,
але ведаю, ты скажаш:
яны былі і тваімі.

Хацеў бы табе аддзячыць
за доўгія чаканні,
кароткую рэўнасць,
стрыманыя слёзы,
лёгкія дараванні,
але ведаю, ты скажаш:
каханне не мераюць на локці, як палатно,
не ўзважваюць на вагах.

*

Кіньма хоць на адзін дзень
жыццёвыя клопаты і турботы,
возьмем акраец хлеба і шчопаць солі,
пойдзем туды,
дзе няма слабых і моцных,
вялікіх і малых,
правых і вiноўных,
дзе самі сабе мы будзем
і суддзямі,
і падсуднымі,
дзе ўладарыць мудрая прырода,
нікога не крыўдуючы,
шчодра адпускаючы кожнаму
наканаванае яму —
нараджэнне і смерць.

*

З кніжак ведаю,
што самае моцнае каханне — лебядзінае:
лебедзі не могуць жыць адзінока,
і калі з пары браканьер заб'е аднаго,
другое заканчвае жыццё самагубствам.
«Гэта не каханне, а шаленства,
яно не для людзей»,— сказаў бы я ўчора.
Але сёння...
Сёння сам згадзіўся б ашалець,
каб толькі не быць адзінокім лебедзем.

*

Я прачнуўся, а ты спіш,
працягнуў рукі — ты не ловіш іх,
вуснамі прыпаў да вуснаў — ты не пярэчыш.
Які я шчаслівы!
Берагу твой сон,
тваё дыханне,
твой мёд.
Берагу сваю заўтрашнюю радасць,
сваё бясконцае жыццё.

*

Ад злых людзей,
ад папрокаў і сурокаў
схаваю тваё імя,
напішу яго літарамі неіснуючага алфавіту,
зашыфрую яго ў сваіх вершах так,
каб ніводзін чытач на свеце

не змог да яго прабіцца
праз тысячы тысяч нудных маіх радкоў...
На векі вечныя схаваю тваё імя!

*

Пагдядзі:
пасля вясенняга дажджу
на чорным балоце
распукнулася залацістая кветка лотаці
і цягнецца пялёсткамі да сонца...
Ты ніколі не бачыла,
як полем ходзіць сейбіт
і засявае палетак збожжам.
Не бачыла,
а сама стала сейбітам —
пасеяла ў душы маёй неспакой.

# Невук

Мне пад шэсцьдзесят ужо,
адукацыю ж маю я толькі пачатковую,
бо мая школа — зямля,
праграма ў якой бясконцая,
а класаў толькі дзесяць:
поле,
луг,
выган,
паша,
рэчка,
лес,
балота,
гарод,
стайня,
гумно.
Урокі ў іх праходзілі цікава і змястоўна,
з практычнымі заняткамі:
ворывам,
сяўбой,
касавіцай,
жнівом,
малацьбой,
доглядам жывёлы.
Я ніколі не атрымаю атэстата сталасці,
бо прапусціў многа ўрокаў:
калі вучыў з кніжак
                    табліцы, правілы, тэарэмы,
а яшчэ — калі сядзеў на розных нарадах
ды марыў пра сваю славу.

Невук я!

# Букет чаромхі

Паставіў на стол вялізны букет чаромхі,
нырнуў тварам у белае раздолле квецені,
на поўныя грудзі ўдыхаю густы пах,
нібы п'ю настой дурнап'яну.

А ў вачах
букет рассыпаецца
на мноства белых пялёсткаў,
якія заўтра
ападуць на абрус,
адыходзячы ў свой вечны сон.

Пасля выкіну я на сметнік голыя пруткі,
і толькі церпкі водар
будзе яшчэ некалькі дзён
жыць у маім пакоі,
як успамін аб мінулай вясне,
як міф
аб шчаслівым юнацтве.

* * *

Не верыце?
Я адчуваю, як верціцца Зямля.

Ля мора
я гэтаму навучыў бы і вас.
Калі заходзіць сонца,
трэба моўчкі стаяць і глядзець,
як яго вогненны шар
апускаецца ў густую ртуць вады,
нібы цяжарная жанчына садзіцца ў ванну.

Зайшло да палавіны,
на дзве трэці,
застаўся толькі акрайчык...
Увага!
Не прапусціце моманту, калі яно знікае.
Адчуваеце?
Зямля крутнулася,
хіснула вас назад.
Цяпер трымайцеся!
Разам з планетай
вы ляціце вакол сонца
з шалёнай хуткасцю.

* * *

Запісаныя думкі —
як скошаныя травы:
засохнуць яны, злежацца...
Паспрабуй тады разабрацца,
дзе якая сцяблінка,
дзе якая кветачка,—
іх ужо нібыта і няма,
ёсць адно адцягненае паняцце —
сена.

# Рабінзон

Мора — за мной,
мора — перада мной,
і не відно той сцяжынкі,
якая прывяла мяне сюды.
А можа, усё гэта мне сніцца?
Не!
Кратаю нагой бясформенныя абломкі скал,
яны цяжкія, непадатлівыя;
ступаю па пяску,
і ён прысакам цячэ праз пальцы босых ног.
Над галавой — як дні адзіноты —
плывуць аблокі.

Колькі ж іх праплыве,
пакуль на даляглядзе пакажацца
дымок парахода-выратавальніка?..

# Не развітаюся

Мора,
здаецца, я ніколі не развітаюся з табой,
бо ўвесь час
даводзіцца ісці
па хвалях лёсу,
праз штормы і віхуры напасцяў,
праз туманы паклёпаў і зайздрасці.
У твар мне сякуць
салёныя пыркі няўдач,
пад нагамі адчуваю
хісткую палубу славы.

І парой бывае такі крэн,
што не ведаю,
ці ўтрымаюся я за ванту жыцця.

# Асеннія акварэлі

## НАВОШТА?

Навошта ты, дождж,
так шчодра поіш сухую траву,
якой ужо ўсё роўна паміраць?

Навошта ты, сонца,
так шчодра размалёўваеш кляновае лісце,
якому ўсё роўна падаць у гразь?

## ЧАС

Хоць ён і хаваецца ў тумане,
саламянымі нагамі
ціхенька ступае па зямлі,
цяпер
я так востра адчуваю,
як імкліва бяжыць ён, час.

## БЫЛІНКА

Абсыпалася насенне крываўніку.
І цяпер гэтая незаўважная амаль былінка
чакае снегу,
які накрые ўсё,
апрача яе.
Ва ўсім полі
толькі адна яна будзе ўзнімацца над снегам
і ўяўляць сябе
непераможнай.

# Канец восені

Згарэла датла
залатая казка восені,
апаў на дол
яе шэры попел,
яго растварылі дажджы,
і глеба ўвабрала ў сябе гэты раствор.

А дым
хацеў узняцца да неба,
стаць воблакам,
але не здужаў
і зноў апусціўся,
поўзаў па лагчынах туманам,
пакуль не з'елі яго замаразкі.

* * *

Калі мароз праймае да костак,
бяроза ўспамінае,
як летам
падбягалі да яе ног мяккія травы,
на голле садзіліся птушкі,
спявалі,
а па лісціках поўзалі ненажэрныя хрушчы.

Вецер прыносіць з поля
духмяны пах спелай пшаніцы.

* * *

Сховішча часу — камень,
сховішча цішыні — мох,
сховішча холаду — лёд.

А куды мне схаваць свае думкі,
калі яны не ўлазяць
ні ў якія граматычныя формы?

* * *

Зайздрасцю лютай
зайздрошчу я сонцу,
якому раніцой
маладыя жанчыны
адчыняюць вокны
і ўпускаюць у спальню,
як самага
жаданага
госця.

## Агонь і попел

Як бы ні разгараўся агонь,
як бы ні бушаваў,
якімі б адценнямі ні пераліваўся,
у яго душы
спее попел,
што ляжа на зямлю забыццём.

* * *

Тапчу нагамі
апалае лісце,
нібы іду па хвалях жоўтага мора.
Не дае мне патануць
вера —
у заўтрашні дзень,
у новую вясну,
што неўзабаве з тысячы пупышак
выпусціць тысячы лістоў,
якія
    зазеляняюць і адзеляняюць,
    зашумяць і адшумяць,
    пажаўцеюць і ападуць,
каб зноў было камусьці жоўтае мора —
мора па калена.

# Развітанне з восенню

Апошні дзень залатой восені —
як на пероне
развітальны пацалунак
каханай,
якая адна едзе на Поўдзень
аж да наступнай вясны.

* * *

Адсечаная вострай шабляй маланкі
галінка дуба
ляжыць на шашы
і трымціць лісточкамі,
нібы жывая,
п'е паслянавальнічны азон,
хоць і ведае:
ніякі асілак не падыме яе назад,
ніякі сталяр не прыклеіць,
ніякі ўрач не прышые,
ніякі мудрэц не верне жыцця.

* * *

Па небе плыве аблок,
пусты,
без дажджу і бліскавіц,
адно ён можа —
зацямніць на хвілю сонца...

Праплыве,
і ніхто яго не запомніць...

## Зайчык

Ад раніцы скача па Мінску сонечны зайчык:
з акна ў акно,
са сцяны на сцяну,
з вуліцы на вуліцу,
з плошчы на плошчу;
між камяніц шматпавярховых
убачыў астравок старога горада —
прыватныя драўляныя домікі
аж пад самыя дахі патанаюць у садах,—
прабіў густую лістоту вішань і яблынь,
абнюхаў грады
і не знайшоў нават хвосціка морквы —
усю зеляніну гандляркі панеслі
на Камароўку...

І палахлівы сонечны зайчык
смела ўскочыў на падножку тралейбуса,
без білета, «зайцам»,
паехаў у Зялёны Луг.

* * *

Жанчына
развешвае на балконе мытую бялізну,
развешвае свае былыя сны,
свае ружовыя мары.

Знізу
мне цяжка адрозніць,
што — святочнае,
што — будзёнае,
якія мары здзейсніліся,
якія — не.

# Тваe вочы

Чаму твае вочы
такія блакітныя,
як васількі ў жыце,
як няпройдзеныя мной далі?
Чаму?

Чаму твае вочы
такія ясныя,
як майскае сонца,
як мае мары?
Чаму?

Чаму твае вочы
такія бяздонныя,
як зорнае неба,
як мае спадзеўкі?
Чаму?

Чаму твае вочы
такія блакітныя,
ясныя
і бяздонныя,
чаму яны такія халодныя?
Чаму?

# Трэба вучыцца...

На сустрэчы з чытачамі
падышла да мяне дзяўчына —
кроў з малаком —
і пытаецца:
— Як мне стаць паэтэсай?

Я гляджу на яе і думаю:
«Дурненькая,
зірні на сябе ў люстэрка:
такія румяныя шчокі —
грэцца б ля іх у самыя лютыя маразы!
Такія глыбокія вочы —
глядзецца б у іх не наглядзецца!
Такія спелыя вусны —
цалаваць бы іх не нацалавацца!
Такія налітыя грудзі —
смактаць бы іх дзіцячаму роціку!
Навошта табе тыя вершы?
Як мага хутчэй станавіся матуляй!..»

Але чамусьці сур'ёзна адказваю:
— Каб стаць паэтэсай,
трэба многа вучыцца.

# Стваральніку нейтроннай бомбы

ЭПІСТАЛА

## I

Як дзіця ў матчыным наручы,
мільёны гадоў
у абдымках сонечных промняў
песціцца
самая прыгожая з усіх планет —
наша Зямля,
адзіная ў Сусвеце,
на якой ёсць цуд з цудаў —
жыццё.

Жыве трава,
жыве дрэва,
жыве казяўка,
жыве рыбіна,
жыве змяя,
жыве звер,
і самым поўным жыццём жыве чалавек.

Чалавек працуе,
чалавек вучыцца,
чалавек кахае,
чалавек смяецца,
чалавек плача,
чалавек думае...

Аб чым чалавек думае?
Я — чалавек
і больш за ўсё думаю пра шчасце.

А што такое шчасце?
Ніхто не можа адказаць
на гэтае пытанне,
бо ў кожнага яно сваё —
шчасце,
сваё і непаўторнае.

II

На самай прыгожай з усіх планет —
на нашай Зямлі
пазнаць шчасце
могуць толькі жывыя людзі.
Шчасце і жыццё — непадзельныя.

Людзі імкнуцца да шчасця,
людзі шукаюць шчасце,
людзі змагаюцца за шчасце,
і гэта — адзнака не толькі нашага часу:
колькі існуе чалавек,
столькі ён і марыць пра шчасце.

Шчасце — гэта здабытак чалавека,
плён яго імкнення,
плён яго розуму,
плён яго працы,
плён жыцця.

Шчасце і жыццё — непадзельныя.

III

Што я чую?
Няўжо чалавек мог сказаць такое?
Няўжо хто з людзей мог такое
выспеліць у галаве?

Няўжо мог такое сказаць чалавек —
жыхар нашай прыгожай Зямлі —
адзінай населенай планеты ва ўсім Сусвеце?
Няўжо хто з людзей
можа марыць пра шчасце
без жыцця?
Бліснe, кажаш, у небе маланка
і знішчыць усё жывое:
людзей,
звяроў,
птушак,
рыб,
паўзуноў
і насякомых...
А рэчы застануцца,
адны рэчы:
машыны,
шыфаньеры,
тэлевізары,
крэслы-ложкі:
электронныя гадзіннікі,
плашчы, курткі, кашулі, сукенкі...
Навошта ж мне тыя рэчы,
калі самога мяне не будзе?

IV

А ты,
аўтар гэтай дзікай зброі,
таксама ж лічыш сябе чалавекам?
Для цябе — што? —
будзе выключэнне
і ты застанешся жывым,
адзін
на ўсёй нашай планеце,
зробішся ўладаром чужых рэчаў?..
І ў гэтым будзе тваё шчасце?
Вар'ят,
перастань займацца глупствам!
Адзінокаму,
якім бы ні быў ён багатым,
немагчыма стаць шчаслівым.
Слова «смерць» не спалучаецца
са словам «шчасце».
Непадзельныя толькі шчасце і жыццё.

Вось чаму
усе насельнікі Зямлі —
адзінай у Сусвеце планеты,
на якой ёсць цуд з цудаў —
жыццё,
праклінаюць
тваё д'ябальскае вынаходства.
адзінадушна кажуць
рашучае «Не!»
вайне.

# Бухта Айвазоўскага

Кажуць, Айвазоўскі штылю не любіў,
кажуць, быў заўсёды шторму верны,
і, калі прыбой у скалы біў,
не сядзелася яму ў майстэрні.

На пустынным беразе мастак
чараўніцтвам нібы захапляўся:
падаваў Нептуну тайны знак —
выклікаў «Лятучага галандца».

І «Галандзец» праразаў туман,
ветразь надзімаў, імчаўся з даляў
і, каб звесці жывапісца ў зман,
то ўзлятаў,
то патанаў у хвалях.

Што страшней на моры: глыб ці мель,—
Айвазоўскі ведаў дасканала
і жадаў, каб прывід-карабель
устаяў перад дзевятым валам.

Толькі ці ж магчыма ўтаймаваць
непрыкаяны разгул стыхіі,
папярэдзіць,
адхіліць,
стрымаць,
пераняць
трагедыі людскія?

Мора Чорнае!
Адвечны неспакой —
ураганы,

штормы,
шквалы,
смерчы...
Вы спакон вякоў натхнялі мастакоў,
хвалявалі чулыя іх сэрцы.

Сёння — штыль,
і бухта, як трумо,
адбівае чысціню блакіту.
На пленэры ўроссып і гурмой
дэманструюць спрыт свой мастакі тут.

Ім карціць наш дзень намаляваць
залацістым,
светлым
і прыгожым...
Ды каго ўсхвалюе ціш і гладзь?
Ды каго бязвоблачнасць ўстрывожыць?..

Кажуць,
Айвазоўскі штылю не любіў,
кажуць,
быў ён толькі шторму верны,
і, калі прыбой у скалы біў,
не сядзелася яму ў майстэрні.

# Карадаг

Карадаг — вялізнае каменнае страшыдла.
У яго тры галавы:
адна ўглядаецца ў неба,
другая нюхае вецер,
а трэцяя п'е і ніяк не можа выпіць мора,
бо мора — бяздоннае,
бо мора салёнае,
бо мора неспакойнае і злое,
б'е хваляй па мордзе, залівае ноздры...
Трэцяя галава Карадага
толькі фыркае, і чмыхае,
і ўсё крычыць:
— Вып'ю! Вып'ю!

— Дурніца ты! —
кажуць ёй старэйшыя сёстры-галовы.—
Чаго ты зводзішся?
Жыві, як мы, спакойна і ціха,
любуйся небам,
сушыся пад сонцам і ветрам,
нюхай кветкі руж і кізілу.

— Не хачу жыць так, як вы! —
не ўнімаецца трэцяя галава Карадага
і працягвае піць мора.

А можа, вып'е?

# Бераг
# мора

Бераг мора — свет бязмежны,
вечны рух,
жывая плынь.
Бераг мора — вочы рэжа
пераkуленая сінь.

Бераг мора — яснасць далі,
залацісты гарызонт.
Бераг мора — коцяць хвалі,
як жыццё, за годам год.

Бераг мора — гнёзды чаек
між абломкаў шэрых гор.
Бераг мора — свет без краю,
неба і вады прастор.

# Аскольдава магіла

Бэз долу голле хіліць,
набраклае расой.
Аскольдава магіла
пад маладой травой.

Ужо за белым садам
старых не ўбачыш стрэх.
Пачаць хачу баладу
пра даўні князеў грэх.

Маўчыць прыдворных кодла
пра тайну чорных дзён:
забіў Алег Аскольда —
за жонку ці за трон?

Напэўна ж — за жанчыну,
бо тысячу ґадоў
паэты без спачыну
далдоняць пра любоў.

Хто ж голаў склаў за ўладу
і ўлады не прыдбаў,
ці ж пра яго
баладу
складалі б для забаў?!.

# Уладзімірская горка

Адбівае тут гадзіннік
не гадзіны, а вякі.
...Стаў над кручай Уладзімір,
нібы праведнік які.

Кажуць, князь ён быў — не промах,
і хаця рабынін сын,
чэлядзь мог трымаць у жомах,
піў віно,
кахаў жанчын.

Вызначаўся не адвагай,
а майстэрствам цёмных змоў:
печанегам і варагам
прадаваў сваіх братоў.

Каб Рагнедай завалодаць,
стольны Полацк спапяліў
і сям'ю ўсю Рагвалода
да малютак перабіў.

У гарэм прывёз сіротку,
прымадоннай абвясціў.
Дзень салодкі быў кароткім —
хмель атрутай загарчыў.

Рэўнасць поўзала за славай,
а дзе рэўнасць, там і страх...
Выгнаў любую ў Заслаўе
за няздзейснены замах.

— Здрада! — рэкнуў кіяўлянам,
і, каб жаху больш нагнаць,
на гары высокай самай
ён паставіў Перуна.

Ідала таго з калоды
вычасалі цесляры,
з ім лягчэй было з народа
драць падаткі і дары.

Але хутка спахапіўся
князь — што возьмеш з цурбана? —
медавухі ён напіўся,
гаркнуў:— Звергнем Перуна!

Звераглі,
у Дняпро скацілі
груба чэсаны смаляк...
Тут жа кіяўлян хрысцілі
хітры поп і п'яны дзяк,
лоб жагналі і давалі
новыя імёны ўсім:
Аляксандр,
Іван,
Савацій,
Абакум і Нікадзім,
Дармідонт і Еўдакім...

Шчэ мацней у новых жомах
князь трымаў сваіх рабоў.
Кажуць, быў жа ён — не промах,
здатны да інтрыг і змоў,
гандляваў вупь і багамі
прахадзімец ад Хрыста...
Скінуў ідалаў паганых,
сам жа ідалам тут стаў.

## Літоўскаму сябру

Чакаю, веру я: на дачу
прыедзеш да мяне вясной,

калі на выгалах прыгрэтых
цячэ бярозавік з бяроз.

І мы з табою разам пойдзем
насустрач промням залатым.

Я пакажу табе сцяжынку
да чыстых ледзяных крыніц

і навучу цябе выходзіць
з гушчэчы сноў і дум цяжкіх.

Палюбіш ты святло пралесак
між ціхіх прыцемкаў ялін

і птушку вечную — сароку,
якая ў вырай не ляціць.

## У Клайпедзе

Горада не ўбачыў — лівень хлынуў,
пад брыльком кіёска
                    быў надзейны схоў.

Я купіў газету,
папрасіў дзяўчыну
растлумачыць сэнс літоўскіх слоў.

Прачытала:
— «Tiesa» — па-літоўску «Праўда»,
«Valstybins» — «дзяржава»,
«Tarybos» — «Савет»
«Klaipeda» — наш горад,
                    рускім братам
вернуты навечна ён цяпер Літве.
Зразумеў?
Скажы, яшчэ што хочаш
у Мінск прывезці з горада майго?

Паглядзеў дзяўчыне ў іскры-вочы
і сказаў:
— Жадаю аднаго:
каб жыла ты кветкаю шчаслівай
у Літве свабоднай, маладой.

...Гузікі бушлата зашпіліўшы,
я на кліч гарніста
                    выйшаў зноў пад дождж.

## Кавярня «У златэго гада»

Шмат кавярняў ёсць у Празе,
толькі лепшай не шукай,
бо сюды, сказаць па праўдзе,
ты заходзіш, нібы ў рай.

Чорнай кавы пах прынадны...
І вітае ўсіх гасцей
зачараваным паглядам
залаты лятучы змей.

Ён калісьці быў на волі
і Адама спакушаў,
а прывязаны да столі
смірным і лагодным стаў,

на прышэльцаў пазірае
з незатоенай журбой,
хоць з часоў біблейскіх ззяе
залацістаю луской.

Змей, вядома,— для рэкламы,
з дрэва ці мо з прэс-пап'е,—
ён зялёнымі вачамі
назірае,
хто што п'е.

І калі ты выйдзеш з нормы
ці пачнеш вярзці ману,
змей цябе знячэўку торкне
і пакажа на сцяну

(там стаяць Адам і Ева
і смяюцца ад душы,
бо пладоў пад'елі з дрэва
і паспелі саграшыць):

паглядзі, маўляў, як людзі
жыць не могуць без уцех,
так яно было і будзе:
грэх — як смех,
а смех — не грэх.

...Селі й мы пад тое дрэва
(ці то дуб, ці, можа, вяз),
і рэальная ўжо Эва
выслухала наш заказ.

Вабна бліснулі калені,
нібы сполахі ў імгле,
і праз нейкае імгненне
кубкі з кавай — на стале.

Здзіўленыя тым уменнем,
з македонцам маладым
каву п'ём
і ў вочы змею
з цыгарэт пускаем дым.

Дым у вочы мы пускаем
змею і самім сабе
ды лянотна разважаем,
нібы ўпрэлі на касьбе.

Разважаем не пра каву,
не пра Эвін стройны стан.
— Грошы ёсць — не трэба славы,—
кажа цвёрда Радаван.

Не пярэчу я, ды згоды,
згоды я яму не дам,
мо таму, што ад прыроды
я маўклівы, як Адам,

і такі ж на славу прагны,
і такі ж... наконт жанчын.
— У раю хіба ёсць рангі?
— Як не ведаеш, маўчы!

— Змей па-чэшску — «гад», а з гадам
сябраваць ці станеш ты?
— І для гада ёсць спагада,
калі гад той — залаты;
калі сувязі ён мае,
блат,
ці шчыліну на склад,
ці пасаду дзесь займае,
ці камусьці кум і сват...

Выпіў каву нетаропка
македонец Радаван,
спрэчцы той паставіў кропку:
— Маладых не зводзь у зман!

І шчэ большымі сябрамі
мы выходзім з-за стала.
...Не міргае змей вачамі,
бо яны ў яго — са шкла.

## Ля помніка Лацу Навамескаму

Над Сеніцай — дрыжыць шкляны блакіт,
напалены пякучым летнім сонцам,
а ты ідзеш,
                    паставіўшы каўнер,
нібыта
          ў твар сячэ
                         асенні дождж са снегам.

Нічога тут фальшывага няма.
Цябе, напэўна,
                         скульптар добра ведаў:
ты не любіў
                    адлежвацца ў цяньку,
настойліва ішоў
                         да мэты яснай.

Ішоў не да народа —
разам з ім.

Народу без паэта цяжка быць.
Паэту без народа — не адбыцца!

# Перад гарою Снежкай

Каб быў тут блізка
фатограф Карал Пліцка,
зрабіў бы нам
ён многа панарам
і на адну з іх
зняў бы нас дваіх
перад гарою Снежкай:
я — сумны,
ты — з усмешкай.

# Вечар у Добржышы

А зоркі пахнуць ружамі
ў зацішку між прысад...
З тваіх вачэй замружаных
струменяць
мёд і яд.

Іх піць — і не напіцца мне,
да раніцы хмялець.
...Шуміць над чарапіцаю
каштанавая медзь.

# Славацкія трыялеты

*

На вузкіх вулках Браціславы
шмат сонца і кароткі цень;
мне ўсё тут нова і цікава,
на вузкіх вулках Браціславы.
У промнях гонару і славы
нясе Славакія свой дзень.
На вузкіх вулках Браціславы
шмат сонца і кароткі цень.

*

Калі ў Дунай глядзяцца зоркі,
здаецца, ён не мае дна.
Не трэба лішняе гаворкі,
калі ў Дунай глядзяцца зоркі.
Наш лёс не згубны, хлеб — не горкі,
не выпускай ты з рук стырна.
Калі ў Дунай глядзяцца зоркі,
здаецца, ён не мае дна.

*

Стаіць на плошчы Трнавы помнік —
салдат савецкі сцяг узняў,
яго залоцяць сонца промні.
Стаіць на плошчы Трнавы помнік.
Народ славацкі свята помніць,
прынёс яму хто светласць дня.
Стаіць на плошчы Трнавы помнік —
салдат савецкі сцяг узняў.

*

Дунай блакітны толькі ноччу,
пад цьмяным месяца святлом.
Я на свае пабачыў вочы —
Дунай блакітны толькі ноччу.
Магчыма, Штраус і сурочыў
сваім імпэтам і цяплом.
Дунай блакітны толькі ноччу
пад цьмяным месяца святлом.

*

Загінуў на зямлі славацкай
паэт Астапенка Змітрок.
Дзе пахаваны — не дазнацца:
загінуў на зямлі славацкай.
Ля кожнае магілы брацкай
схіляюся, спыніўшы крок:
загінуў на зямлі славацкай
паэт Астапенка Змітрок.

*

Прыгожым рускім словам «Дружба»
завуць студэнцкі інтэрнат.
З усіх краін хлапцоў, дзяўчат
склікае наша слова «дружба».
З японкай швед у танцы кружаць,
спяваюць немка і харват.
Прыгожым рускім словам «Дружба»
завуць студэнцкі інтэрнат.

*

Плывуць над Спішскім Штвэрткам хмары,
ледзь не зачэпяць за крыжы.
Як дзён мінулых міражы,
плывуць над Спішскім Штвэрткам хмары.
Старызну як ні беражы,
час выдзьме са скляпенняў чары.
Плывуць над Спішскім Штвэрткам хмары,
ледзь не зачэпяць за крыжы.

*

Спакойна сёння ля Дуная:
цвітуць сады, шумяць гаі,
у парку салавей спявае...
Спакойна сёння ля Дуная.
І толькі Славін нагадае,
якія тут ішлі баі.
Спакойна сёння ля Дуная:
цвітуць сады, шумяць гаі.

*

Гарац на Славіне цюльпаны,
як зоркі памяці людской,
тут нашы хлопцы пахаваны...
Гараць на Славіне цюльпаны.
І ўжо ніякі госць нязваны
не ступіць больш сюды нагой!
Гараць на Славіне цюльпаны,
як зоркі памяці людской.

*

Кажу я «дзякуй!» гіду Яну,
што паказаў «Славацкі рай»
і партызанскую паляну.
Кажу я «дзякуй!» гіду Яну.
Куды ні гляну, дзе ні стану —
яснее ўсюды небакрай.
Кажу я «дзякуй!» гіду Яну,
што паказаў «Славацкі рай».

*

Між тым, што будзе і было,
знаходзімся мы самі.
І душ цяпло, і дум святол —
між тым, што будзе і было.
Вунь бачыш: сонейка ўзышло
над сінімі гарамі.
Між тым, што будзе і было,
знаходзімся мы самі.

*

Кармілі просценькія жорны
усіх князёў і каралёў,
у градах горных, непакорных
кармілі просценькія жорны.
Здаровым, свежым хлебам чорным
з сялянскіх рэдзенькіх палёў
кармілі просценькія жорны
усіх князёў і каралёў.

*

У ціхай сонечнай даліне
шчыруе вёска Остры Грунь —
славацкая сястра Хатыні,
у ціхай сонечнай даліне.
Жыццё бурліць, жыццё не згіне:
квітнее сад, буяе рунь
у ціхай сонечнай даліне.
Будзь шчаснай, вёска Остры Грунь!

# Дом творчасці «Будмерыц»

*Памяці Андрэя Плаўкі*

Тут восенню
так хораша паэтам!
Імгненна спеюць
гучныя радкі,
за павуцінай
бабінага лета
ляцяць яны
ў наступныя вякі.

Стары каштан
ля ганка
нецярпліва
стаіць,
як неаб'езджаны Пегас,
б'е капытом,
трасе барвовай грывай,
гатоў любога
ўзнесці на Парнас.

Ды той,
хто першы
ўстаў на золку сінім,
быў мудры,
ведаў ён не толькі з кніг;
ёсць за Парнас
вышэйшыя вяршыні,
і можна
не загінуць
на кані.

А можна й пеша...
Толькі б пад нагамі
была свая
гаротніца-зямля!
. . . . . . .

І ён пакрочыў
соннымі лугамі
на ўсход,
насустрач сонцу,
спакваля.

На жаўталісці
і на травах росных
дасюль
ягоны бачыцца мне след...
«Любіць жыццё,
любіць да дзён апошніх!» —
пакінуў ён
нашчадкам
запавет.

# Развітанне з Браціславай

Не першы раз
кажу табе:
— Бывай!
Хачу,
каб зноў было —
і не апошні.
Тут песні,
як віно,
ліюцца цераз край
і сонца промнямі
лагодзіць плошчы.

Я ў вернасці
клясціся не прывык.
Каго люблю,
той сам адчуе гэта.
З праспектаў
і завулачкаў крывых
збіраю фарбы
для твайго партрэта.

Нялёгка расставацца
мне з табой,
авеяная славай,
Браціслава,
дзе пад нямой
цюльпанавай журбой
сон землякоў-салдат
вартуе Славін.

Не першы раз
кажу табе:
— Бывай!

Засмучаны
разлукай непазбежнай,
я помніць буду
мост цераз Дунай
і прамяністы шпіль
Міхальскай вежы.
Пацісинуць рукі
верныя сябры,
Дунай здаля
махне блакітнай хваляй,
святым святлом
засвецяцца знутры,
кіўнуць
платаны з парку
Янкі Краля.
Гасцінны горад,
ты мяне чакай
зімой і летам
ля прысад
надрэчных!
Не першы раз
кажу табе:
— Бывай!
І дадаю з надзеяй:
— Да сустрэчы!

## Ідуць за мной радкі з юнацтва

*Я іх пісаў рукой няўмелай*
*на стыках баявых дарог,*
*калі душа мая гарэла*
*і не пісаць я ўжо не мог.*

*Я іх не вычысціў да бляску,*
*як амуніцыю салдат,*
*бо і не марыў выхваляцца,*
*вылазіць з імі ў першы рад.*

*Я іх не мазаў салідолам,*
*як зброю, што на склад здаюць,*
*бо звыкся з іх кароткай доляй:*
*вось адзвінелі — і памруць.*

*Я іх хацеў забыць навекі,*
*як забываюць будны дзень,*
*пяском засыпаныя рэкі,*
*на трэскі пашчапаны пень.*

*Яны ж ідуць за мною следам*
*амаль паўвека па зямлі*
*і, хоць які я непаседа,*
*да самай старасці дайшлі.*

*Усё ж такія маладыя*
*ў наіўнай шчырасці сваёй,*
*прапахлыя паходным дымам,*
*прагорклыя марской вадой.*

*І ўжо за гэтую іх вернасць*
*і мне*
*і маладым гадам*
*я не дазволю ім памерці,*
*а чытачам*
*на суд*
*аддам.*

## *Паходны дзённік*

### Творчая камандзіроўка

Мне не рэдактар, сябры,— ваенком
пуцёўку ўручыў з атэстатам.
Да месца таварным дапяў цягніком,
прысягу прыняў перад энскім палком
і стаў яго верным салдатам.

Жыццё баявое навек палюбіў,
вінтоўку і гром палігона.
Дзіўлюся, што колісь салдатам не быў,
без строю, без песні хадзіў у грыбы,
не меў гімнасцёркі зялёнай.

Дзіўлюся... А роднай сваёй старaной
стаў яшчэ больш ганарыцца.
Інакш — маладосць не звінела б струной,
інакш — не магло б маё сэрца бранёй
стаяць на савецкай граніцы.

Інакш — я не змог бы у строй гэты стаць
непераможнага племя,
дзе з песняй гартуецца мужнасці сталь,
дзе кожнае сэрца — агонь і крышталь,
дзе кожнае сэрца — паэма.

* * *

Я краю роднага даліны
яшчэ з дзяцінства палюбіў.
Ды як жа не любіць краіны,
дзе нарадзіўся я і жыў?!.

І вось я вырас, стаў салдатам,
а па-ранейшаму люблю
сасновы лес і млын крылаты,
Дняпро і свежую раллю,

дажджом абмытую рабіну
і белыя ствалы бяроз...
Ці ж можна не любіць краіну,
дзе нарадзіўся я і рос?!.

* * *

Да спаткання, цёплая казарма!
Будзь шчаслівай аркай, віядук!
У паход на баявы экзамен
маладыя воіны ідуць.

На шляху — крутыя перавалы,
чэпкія палосы перашкод,
наступы, кароткія прывалы,
харчаванне з рэчавых мяшкоў...

Можа, не майстэрскай перабежкай
у атаку пойдуць першы раз,
але выб'юць «ворага» з аб'екта
пераможным воклічам: — Ура-а-а!

* * *

Адзначыць Новы год бакалам
не дазваляе мне Статут.
Ды што бакал той?
Хіба мала
стаяць сягоння на пасту?!.

Сасонка мне згінае постаць
і зычыць шчасця Млечны Шлях.
А за мяне падыме тосты
уся Савецкая зямля.

Я — на пасту.
Я ганаруся
вялікім іменем — салдат,
і ў дождж, і ў град, і ў завіруху
загад Радзімы — ёсць загад!

Вартую ноччу навагодняй
спакой савецкіх берагоў.
Няхай багатым на рэкорды,
шчаслівым будзе Новы год!

## Запявала

Наш узводны запявала —
хлопец бойкі і вясёлы.
Ён салдатам на прывалах
сумаваць не дасць ніколі,
ён салдатам грэе душы
песняй, жартам і частушкай.

І баец ён добры: метка
б'е з вінтоўкі, з ППШа.
Ў «Баявы лісток» заметку
пра яго я напісаў

Гэта ж па яго парадзе
ў харавы адзін гурток
запявалаў мы сабралі
чалавек так, можа, сто.

Ходзяць з бліжніх сёл вяскоўцы
слухаць хор наш палкавы.
Знаюць нашых хоргурткоўцаў
жыхары самой Масквы —
на аглядзе ўсеармейскім
не адзін там дзень былі.

Кажуць, маршал Васілеўскі
слухаў іх
і пахваліў.

## Першаму камандзіру

У якім кутку Радзімы —
на палях ці ля станка —
чэсць трымаеш нашай роты,
чэсць палка
і ўсёй пяхоты
зараз,
першы камандзір мой,
гвардыі сяржант?!

Гэта ж ты мне крок паходны,
першы комплекс фіззарадкі,
«сцебель,
грэбень,
рукаятку»,
як шынель круціць у статку
паказаў;
танцаваць «Калінку» ў холад,
быць харобрым і вясёлым,
на ялінках ноч марозную
перагпаць у шынялі,
на шурпатым пні бярозавым
напісаць дзяўчыне ліст
навучыў:
«Жыву я весела...»
«Трапна б'е мой аўтамат...»
«На заняткі ходзім з песнямі...»
«Добрых многа тут рабят...» —
і ні слова пра паходы,
пра цяжкі вучэбны дзень.
Баявы сяржант пяхоты,
дзе ж ты сёння, дружа, дзе?

Мне здаецца, ты заўсёды
там, дзе свежая ралля.
Сэрца рвецца з карагодаў
за вясновы далягляд,
каб табе, сяржант пяхоты,
дзякуй шчырае сказаць
і за тое, што ў паходы
навучыў збіраць рукзак,
і за тое,
што ў марозы,
кладучы мяне на снег,
пот і водар зямлі роднай
навучыў любіць мацней.

# На прывале

На прывале сон кароткі,
сон салдацкі,
сон салодкі
з легкакрылай марай,
што нясе, нясе салдата
ў край, дзе тоне ў садзе хата,
канюшына пахне мёдам,
бусел дзюбай-кулямётам
строчыць жнівеньскі блакіт.
Браму новую адчыніць
там харошая дзяўчына,—
твар вясёлы,
загарэлы,
а на плацці яе белым
ззяе Зорка залатая,—
і салдата прывітае
шчырым поціскам рукі,
пацалуе і прытуліць,
скажа:
«Добра край вартуеш,
стой на варце ты заўжды,
каб квітнела шчасце наша».
— Ёсць! — гвардзеец ёй адкажа.
Пра паходы ў дождж асенні
і прабітыя мішэні
расказаць так хоча ёй...

Толькі ж сон яго салодкі —
сон салдацкі,
сон кароткі:
заіграў гарніст «пад'ём».

## Ротны камсорг

Такі закон на службе ёсць:
у баявым страю
ты месца ведаеш сваё,
пазіцыю сваю.

Дадуць вінтоўку — маршыруй,
кацёл — вары абед.
Зусім інакш сакратару —
тут не адзін аб'ект.

І трэба ў час яму паспець
у цір, на палігон,
наведаць кухню, і КП,
і клуб, і стадыён,

каб ведаў кожны з юнакоў
гісторыю палка
і як футбольны матч прайшоў
з «Дынама» ў «Спартака».

І трэба ўмець усё рабіць,
выходзячы ў дазор:
без промаху з вінтоўкі біць,
маскіраваць касцёр,

распазнаваць і фармаваць
характары людзей,
дзе трэба — строгасць паказаць,
уцешыць у бядзе.

Чаму вайну банкіры зноў
імкнуцца развязаць
і пра карэйскіх змагароў
з запалам расказаць,

каб у душы палаў агонь
і кожны мужным стаў,
каб гаварылі пра яго:
«Сапраўдны сакратар!»

## Цяпло Радзімы

Я прывык у паходзе быць вечна,
быць да бою гатовым заўжды,
ў дні марозныя песнямі грэцца,
спёку мерац глыткамі вады.

Што ж так часта у гурце сяброўскім
на прывалах хвалю незнарок
тыя родныя любыя вёскі,
дзе бярозы шумяць ля дарог,
дзе жыты без канца і без краю
каласамі страчаюць зару.

Як люблю я цябе, дарагая,
працавітая Беларусь!

Я па праву краінай найлепшай
называю цябе, родны край,
бо цяпло з прыдняпроўскіх палеткаў
для жыцця баявога сабраў.

## «Служу Савецкаму Саюзу!»

Здаецца, прыгажэй адбіліся ў вадзе
гранітны мол і цені чаек
вячэрняю парой, калі паходны дзень
падзякай камандзір канчае.

За сінім даляглядам бачу: родны край
у кветках патануў і шчасці,
гудуць гудкі, калыша вецер ля Дняпра
густыя пасмы сенажаці;

вяртаецца калгаснік з поля ў новы дом,
дзяўчына пад акном цалуе ружу...
І радасць б'е тады з душы маёй ключом:
«Служу
Савецкаму
Саюзу!»

## Дружба

З маленства нам знаёмыя карцінкі
пра Каракумаў дзікія пяскі.
Ды сябра мой Рахман гаворыць:
— Кінь це,
цяпер наш край прыгожы, не такі:
дзе быў пясок — шуміць сцяной пшаніца,
дзе кактус рос — цвіце цудоўны сад,
і, промнямі наліты, залаціцца
наш вінаград... Ты еў наш вінаград?

Я слухаю, і думкі пераносяць
мяне туды, дзе высяцца стагі
і бабкі на асушаным балоце,
дзе з бульбаю сябруе кок-сагыз.
І ўспамінаю дзень, калі кулацкай куляй
прастрэлены мой бацька паміраў,
ён здымак з-пад акропленай кашулі
мне даў:
«Шануй!..» — ледзь чутна прашаптаў.
З яго глядзеў будзёнавец з вінтоўкай,
і па складах чытаў я на рагу:
«Мяне ад смерці вынес пад Каходукай
мой лепшы друг — Мамедаў Ісамгул».

## На варце

Флоту кветкамі салютаў
шле краіна прывітанне,—
адгалоскі гімнам льюцца
над савецкімі партамі.
Ганаруся, што на вахце
я стаю пад алым сцягам.
Знаю, вымпелы на мачтах
бачны ў гэты час мінчанам.
Знаю, многія прыпомняць
сёння шум прастораў сініх,
бой на востраве Гунхольме
ці дэсант новарасійскі,—
не баяліся дзе смерці,
за Радзіму йшлі пад кулі...
І таму прыемна сэрцу
сёння быць у караўуле.

## Дзяўчыне

Чую: жняярка стракоча на полі,
спелае жыта шуміць,
песня калгасніц, твой голас вясёлы
ў чыстым прасторы звініць.

Бачу: калгасныя нівы густыя,
ты за жняяркай ідзеш,
вяжаш старанна снапы залатыя,
песню пра шчасце пяеш

ды пра таго, хто краіны Савецкай
варту граніцы нясе,
лісты прысылае ў ружовых канвертах —
песню пяеш пра мяне.

Вецер мне гэтую песню прыносіць,
я пазнаю голас твой.
Чую: жняярка на полі стракоча,
не — гэта вінт за кармой.

Не, гэта мора шуміць, а не жыта
ў полі за вёскай маёй,
і не касу, а вінтоўку стальную
моцна сціскаю рукой...

Добра працуй! —
я надзейна вартую
працу тваю і спакой.

## У чужым порце

Патануў у млявай цемры горад,
і на мора паў туман густы.
Дзесьці блізка смелым пераборам
зазвінеў «Лявоніхі» матыў.
Дарагая!
Як ты прыляцела
праз чужыя плыні і вятры?
Вось сустрэцца б нам у гэтай цемры,
пра святло Масквы пагаварыць,
пра жыццё шчаслівае ў Палессі!..
Падыдзі ж...
Не растае туман.
Толькі плача на маіх каленях
па Радзіме тульскі наш баян.

## Ці ёсць дзе?

Ці ёсць дзе на свеце
святлейшае неба,
гусцейшае жыта?
Ці ёсць дзе яснейшы
за наш далягляд?
Ці ёсць дзе на свеце
ярчэйшыя кветкі?
Ці ёсць дзе на свеце
куток прыгажэйшы,
чым наша зямля?
Дзе ліпы начамі
лепш нашых шумяць?

Дзе песні пра шчасце
лепш нашых звіняць?
Дзе лепш палымнеюць
усмешкі прыветаў?
Дзе могуць так шчыра
сцягі чырванець?
Ці ёсць дзе краіна
лепш нашай, Савецкай?
Спытайце любога,
і скажа ён:
— Не!

## Цішыня

Дзень цэлы мора нас гайдала,
то апускала, то ўздымала,
салёнай пенаю норд-ост
запырскаў неба, вочы, рот...

Ды не змаглі ні гром, ні вецер
імкненне нашае суняць —
мы ў порт вярнуліся пад вечар,
і ўсіх кранула цішыня.

І з грудзей, адкрытых бурай насцеж,
песня мілагучная плыве:
«Я другой краіны больш не знаю,
дзе б так вольна дыхаў чалавек».

## Ты са мной, Радзіма!

Зноў крутыя хвалі
пад нагамі
захісталі карабель сталёвы,
ды ніяк,
Радзіма дарагая,
не магу ўявіць,
што ты далёка.

Не магу!
Сябры ў маю каюту
заглядаюць па адным, гурбою
у лістах з калгасаў,
інстытутаў,
у прыветах вучняў і рабочых.

Разгарну цэнтральную газету —
ветла пазірае з-за варштата
сябра мой Міхась,
ён толькі летась
з экіпажам нашым развітаўся.

Уключу прыёмнік —
мінскай маркі! —
звонкі голас пазнаю імгненна:
з нашага калгаса Шлег Адарка
выступае на сталічнай сцэне.

У кіно зайду —
па гулкіх рэйках
мчыць цягнік, мільгаюць толькі колы,
машыніст —
былы наш боцман Рэдзькін —
ветліва махае мне рукою.

І няхай хістаюць пад нагамі
карабель раз'юшаныя воды,
Беларусь!
Радзіма дарагая,
дзе б ні быў,
са мною ты заўсёды!

* * *

Не за блакіт цябе
я палюбіў так, мора,—
за смелы твой разбег,
за шырыню прастораў.

Ты з громам навальніц
спрачацца навучыла.
Гартоўку тут прайшлі
характар мой і сіла.

З натураю марской
так лёгка мне ў жыцці
вятрам наперакор
наперад смела йсці.

*1944—1951*

* * *

Снег беліць паплавы,
ствалы прысад,
і хаты,
і нават бровы чорныя твае,
ён на каўнер
кладзецца пульхнай ватай,
а на гарачых шчоках растае.

Прыемна нам ісці
адным, без сведак,
на чыстым снезе
пракладаць сляды.
Здаецца, не сняжынкі,
а пялёсткі кветак
на дол страсаюць майскія сады.

*1952*

* * *

На ўсе пытанні адказаць гатоў
не словам,
дык гучаннем ліры.
Адно сказаць мне не хапае слоў —
за што цябе я пакахаў так шчыра.

У словы я такія і не веру,
не веру я ў наяўнасць параўнанняў,
якімі б перадаць змог на паперы
цябе,
маё сумленне і каханне.

Вось вочы сінія.
Прад імі васількі
цямнеюць у пажоўклым жыце
і не раўня ім сонечны блакіт,
бо часта хмары носяцца ў блакіце.

Няма ў тваіх вачах хмурынкі зла,
праменяцца яны адной пяшчотай;
каб ты навекі толькі падняла —
і знікла б прэч мая туга-самота.

Тваю ж усмешку параўнаць з зарой
я лічу за здзекі і абразу:
зара бывае золкай, ледзяной,
ты ж усміхнешся —
і цяплынь адразу.

А вусны палкія!
Іх ружамі назваць
замала і ад ісціны далёка:

паўмесяца якога ружы пагараць,
і ападуць завялыя пялёсткі.
Не! Вусны ружамі
я не магу назваць:
цвітуць яны,
не вянуць круглы год,
гараць, пераліваюцца агнямі;
іх хмельнае віно,
салодкі мёд
мне піць не толькі майскімі начамі.

*1952*

# Наказ бацькоў

У дзень ад'езду на вучобу
наказ давалі мне бацькі:
«Запомні, сорам хлебаробу
не мець мазольнае рукі».

Гляджу на чыстыя далоні...
Чатыры ўжо гады прайшлі
жыцця студэнцкага.
Алоўкам
хіба ж нагоніш мазалі?!.

І мо таму мне гэтак рупіць
абмыцца ранішняй расой,
і мо таму так прагнуць рукі
узяць яловае касцё,

што ў дзень ад'езду на вучобу
наказ давалі мне бацькі:
«Запомні, сорам хлебаробу
не мець мазольнае рукі».

*1954*

* * *

Сяджу над канспектам,
а думкі ўсе — там,
дзе звонкае лета
ў альховых кустах
рассыпала промні і шчэбет сарок;

дзе голле парэчкі
схіляюць к вадзе,
з плацінаю рэчка
размову вядзе,
гудуць правады над асфальтам дарог.

Аб родных мясцінах
штодзень мару я
не толькі таму,
што люблю салаўя,
і вербы над рэчкай, і пахкі мурог,—

з адзнакай жадаю
дыплом атрымаць,
каб роднага краю
аблічча змяняць
паехаць.
Не трэба,
не трэба мне іншых дарог!

*1954*

# Рамонкі

Перад залікамі ў пісьме
прыслала ты рамонкаў кветкі,
якія нагадалі мне,
як пахнуць родныя палеткі.

Прыпомнілася, што якраз
цяпер красуе ў полі жыта
і, як вясной разліў Дняпра,
лён усміхаецца блакітам.

Я веру: прывядуць мяне
ізноў на родныя палеткі
рамонкаў прыдарожных кветкі,
што ты прыслала мне ў пісьме.

*1954*

## Гісторыя
## аднаго кахання

Ехалі ў сяло мы на машыне.
Малады плячысты трактарыст
ўсю дарогу аб адной дзяўчыне
гаварыў, бясконца гаварыў:
— Як сустрэў, у вочы яе глянуў,
ты павер, жыву я сам не свой...
Заўтра ў нас вяселле, калі ласка,
прыязджай, браток, не грэбуй мной...

Не прыпомню, па якой прычыне
за сталом вясельным я не піў.
А праз год мне зноў аб той жанчыне
трактарыст з запалам гаварыў:
— Што за жонка! Радасць, а не жонка.
Шчасця да яе не ведаў я.
Бачыш, вось ужо купіў пялёнкі —
прыбаўляцца думае сям'я.
Будзе хлопчык, можа, ці дзяўчынка...
Радасць яна ж радасцю і ёсць.
І прашу цябе я: на радзіны
прыязджай, браток, як лепшы госць.

Не прыпомню, па якой прычыне
не паехаў зноў я.
                                А праз год
прачытаў я раптам у газеце:
патрабуе трактарыст развод
з той прыгожай, ласкавай жанчынай,
па якой калісьці уздыхаў,
ад якой пасля дачку ці сына
з нецярпеннем гэткім ён чакаў.

У газеце не было прыпіскі:
«Прыязджай, браток, не адкажы».
Ды ў кішэні запісная кніжка
з адрасам яго ў мяне ляжыць.

І цяпер я не знайду прычыны
не заехаць, каб яго спытаць:
— Добрую, сумленную жанчыну
хто табе даў права зневажаць?

*1955*

# Ты якраз падобна да яе...

Ты якраз падобна да яе —
мною створанай у мроях-летуценнях.
Як старанна рысачкі твае
сабіраў я ў гушчары ўяўлення!

З гэтых рысак склаў я вобраз той,
для каго адкрыю сэрца насцеж,—
не хапала мне яе адной,
каб было, як кажуць, поўным шчасце.

Ведаў: недзе ёсць яна, жыве,
можа, побач, можа, дзе далёка.
Ведаў: трэба адшукаць яе,
ведаў, што знайсці яе не лёгка.

І навекі слаўлю гарадок,
той, куды прыехаў з адной мэтай —
запісаць там хоць адзін радок
вестак празаічных для газеты.

Адцвітала ў скверыку вясна,
макі захлыналіся ў пажарах.
І цябе адразу я пазнаў,
бо такую ж сустракаў у марах.

Вось і ўсё... Што можна ўспамінаць,
рынуўшыся ў залатую просінь?
За акном гады мігцяць-ляцяць,
і за скроні мацае ўжо восень.

Пакідае час сляды свае
на пяску, на кветках, на каменні.
Ты ж усё падобна да яе —
той, што мне стварылі летуценні.

*1957*

* * *

Не тулі ў каракуль цёплы
твар прыгожы, малады.
Дождж? Ды гэта ж толькі кроплі,
пойдзе дождж, дык што ж тады?..

Ці ж цябе вучылі ў школе
гнуцца ветру, як трысцё,
ціхім перакаці-полем
пракаціцца праз жыццё?

Не, не гэтаму за партай
навучалі ўсе цябе,—
каб была заўсёды ўпартай
у жыцці, у барацьбе;

каб настойліва і смела
шляхам выбраным ішла,
каб не тлела, а гарэла
і ніколі не старэла —
маладой душа была;

каб патоп, не толькі кроплі,
не заліў юнацкіх мар!..

Не тулі ў каракуль цёплы
малады прыгожы твар!

*1957*

## Падары ты мне...

Падары ты мне ноч,
падары мне таемныя чары,
падары згоду рук,
залаты вадаспад валасоў;
падары мне аб шчасці
салодкія светлыя мары,
падары свайго сэрца
мне шчырую песню без слоў.

Падары ты мне ноч.
Падары ты мне вочы і зоры,
і дыханне сваё,
і пяшчоту,
і вуснаў нектар.
Падары яшчэ мне
сваю гордую непакору
і даспелага цела
нікім не раздзьмуты пажар.

*1958*

* * *

Мы з табой —
як два новыя жбаны,
да краёў напоўненыя
толькі сабой.

Майскай ноччу
стаім у абдымку
і ніяк не можам нацалавацца.

Чуем,
як пераліваецца
змесціва жбаноў:
з твайго — у мой,
з майго — у твой.

*1958*

## Сыну

Вось так і я
гуляў калісьці бесклапотна,
купаўся ў рэчцы,
грушы рваў,
у лесе ягады збіраў,
таптаў мурог на паплавах,
слізгаў зімою на каньках.

А хтосьці сеяў мне пшаніцу,
не спаў начамі на граніцы,
рабіў прыгожыя мне цацкі,
паркаль мне на кашулю ткаў,
для парты дошкі габляваў,
буквар, чытанку друкаваў,
шыў
навырост
шынель салдацкі.

*1959*

## Свеціць Месяц

ПА НАРОДНЫХ МАТЫВАХ

Свеціць Месяц, свеціць ясны,
лебедзем плыве між зор,
вяжа промні ў перавяслы,
серабрыць увесь прастор.

Зазірае смела ў вокны,—
знай, вышэй за ўсіх стаю!..
Вось прыйшоў, як госць залётны,
у кватэру ён маю.

Асвятліў над ложкам сына
Цыялкоўскага партрэт —
і пачуў у далі сіняй
рокат будучых ракет.

Тых ракет, што кожнай ноччу
з незабыўнае вясны
мілы мой гарэза-хлопчык
на кароткім ложку сніць.

*1961*

# Змест

*Сцежка да крыніцы*

*Арытмічныя мелодыі*

*Дарожныя нататкі*



*Радкі з юнацтва*

**Жычка Ф.**

Ж 94 Абдымкі сонца.: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1988.— 158 с.

ISBN 5-340-00045-1

У кнізе яскрава выражаны характэрныя рысы нашага часу: імкненне да перабудовы ўсіх сфер нашага жыцця, вера ў перамогу праўды і розуму. Знешне спакойныя вершы зборніка хвалююць шчырасцю пачуцця, арыгінальнасцю думкі.

**Ж $\frac{4702120200-026}{М\ 302(03)-88}$ 45—88** **ББК 84 Бел 7**

*Литературно-художественное издание*

Жичка Федор Дмитриевич

ОБЪЯТИЯ СОЛНЦА

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Жычка Хведар Дзмітрыевіч

АБДЫМКІ СОНЦА

Вершы



Рэдактар Р. М. Яўсееў. Мастак Н. У. Сустава. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар Т. В. Трубач.

ІБ № 2820
Здадзена ў набор 13.07.87. Падп. да друку 0,4.12.87. АТ 07765. Формат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 5,85. Ум. фарб.-адб. 10,68. Ул.-выд. арк. 4,59. Тыраж 4000 экз. Зак. 611. Цана 75 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.